ПОГЛЯД

# Не крыўдзіце вяскоўцаў!

Думаю, не адна я заўважыла, што слова "колхозник" у апошні час стала абразай. Ім гараджане, вядома, не самыя разумныя і далікатныя, называюць таго, каго хочуць прынізіць, пакрыўдзіць. Дажыліся! Ужо пагарджаюць тымі, хто вырошчвае і ўбірае хлеб. Хіба яны вінаваты, што сталі "колхозниками"? Каб некалі бальшавікі не адабралі ў вяскоўцаў зямлю, а продкаў не згнаілі ў Сібіры, яны былі б гаспадарамі. А так з пакалення ў пакаленне "колхозники" бедныя, замучаныя работай, цяжкімі ўмовамі жыцця.

Тыя, хто пагарджае вяскоўцамі, мабыць, яшчэ і спаць не клаліся пасля п'янак-гулянак, а "колхозники" ўстаюць раней за сонца, бо на фермах чакае някормленая жывёла, чакае ніва, дзе спее ўраджай, які неўзабаве трэба будзе ўбіраць.

А колькі клопатаў на ўласным падвор'і, бо без яго за малую зарплату вясковы чалавек не пражыве: не вывучыць дзяцей, не купіць у дом самае неабходнае. Так што працоўны дзень у "колхозника" бясконцы, летам на адпачынак выпадае вельмі мала часу.

Здавалася б, у цяперашніх умовах трымаць уласную гаспадарку нявыгадна: дарагія кармы для свіней і хатняй птушкі. Але яны трымаюць. У вёсцы ж няма дзе знайсці дадатковы заробак.

Сельскія людзі не ведаюць, што такое *адпачынак* у шырокім сэнсе гэтага слова. Яны адпачываюць толькі на вялікія святы, ды і то не на ўсе, бо такая ўжо доля таго, хто корміцца ад зямлі і іншых корміць: даглядаць жывёлу і пасевы, убіраць ураджай трэба і ў будні, і ў святы, інакш застануцца без хлеба не толькі самі, але і тыя "разумнікі", хто імі пагарджае.

Заедзьце ў любы калгас і запытайце, хто з мясцовых жыхароў сёлетнім летам збіраецца з'ездзіць у адпачынак на мора. На вас паглядзяць, як на вар'ята, бо тут, як у даўнейшай песні: "Трудовые будни — праздники для нас" і "Отдых — это смена деятельности".

Раней у многіх вёсках былі клубы і бібліятэкі, але іх імкліва зачыняюць, кнігі вывозяць... Ды і што сказаць: каму тут чытаць ці ў кіно хадзіць, калі пазаставаліся толькі старыя і хворыя. Так званыя ачагі культуры патухлі назаўсёды. Засталіся толькі ў аграгарадках, але з іх радасці мала, бо нічым новым зацікавіць людзей не могуць. Толькі калі плануецца якое мясцовае ці раённае мерапрыемства, культработнікі пачынаюць варушыцца, а потым зноў упадаюць у спячку. Нічога дзіўнага: у іх таксама заробак мізэрны, няма ніякага стымулу для творчасці.

А вазьміце лазні. Яны ёсць нават не ва ўсіх вялікіх вёсках, ужо не кажучы пра малыя. Сяляне спакон веку мыюцца ў начоўках, у іх няма ні ванны, ні душа. І гэта пры цяжкай фізічнай працы на гарачыні, калі варта было б памыцца некалькі разоў у дзень. Часта назіраю такі малюнак, і сэрца заходзіцца болем: на медыцынскі агляд у раённую паліклініку прыязджаюць жывёлаводы. Дык па паху можна здагадацца, што гэта людзі вясковыя. Жанчыны акуратныя, перад паездкай да дактароў яны прывялі сябе ў парадак, старанна памыліся, аднак спецыфічны пах уеўся ў скуру, яго можна пазбегнуць толькі тады, калі на кожнай ферме будзе душ. Але гэта з вобласці фантастыкі.

А ці часта вы сустрэнеце вяскоўца, які б паправіў сваё здароўе ў санаторыі? Такіх вельмі мала. У нашым Дзятлаўскім раёне шмат гадоў таму пабудавалі цудоўны санаторый "Радон". Мелася быць міжкалгасная здраўніца. Але гэта толькі абяцанкі. Там адпачываюць усе хто заўгодна, толькі не калгаснікі, бо ў іх на гэта ніколі не хопіць грошай: за няпоўны месяц — чатыры мільёны рублёў! У "Радоне" лечацца гараджане і заможныя людзі з Расіі, далёкага і блізкага замежжа, а нашы вяскоўцы бачаць гэты санаторый толькі здалёк.

Ці трэба здзіўляцца, што моладзь бяжыць з вёскі не аглядваючыся? Закончаць хлопцы і дзяўчаты школу — і толькі іх тут і бачылі! Вяртацца ніхто не хоча, а калі хто і вернецца, дык толькі для таго, каб прымусова адпрацаваць належны пасля вучобы тэрмін. І зноў уцякаюць.

Не кажучы ўжо пра малыя вёскі, старэюць аграгарадкі, пусцеюць школы. І там, дзе сёння яшчэ ёсць жыццё, праз 10—15 гадоў будуць паселішчы пенсіянераў.

Ужо сёлета напрадвесні было заяўлена, што па краіне не хапае некалькі тысяч механізатараў, якія б селі на трактары і правялі сельгасработы. Запрашалі людзей з боку, усіх, хто мае пасведчанне трактарыста. Яны, канешне, у крайнім выпадку дапамогуць, але гэта не хлебаробы, не гаспадары на зямлі. Як некалі казалі, адбываюць шараварку. А зямелька любіць гаспадарскія рукі, толькі ім яна паслухмяная.

Вяскоўцы співаюцца і выміраюць. Не ад добрага жыцця співаюцца, а з адчаю, безвыхаднага становішча. Балюча глядзець на гэта.

Некаторыя кажуць: няма чаго надта бедаваць па выміраючых вёсках, маўляў, так усюды — горад перамагае. На зямлі павінны працаваць тыя, хто мае для гэтага спецыяльныя веды, грошы і можа арганізаваць справу на высокім узроўні. Згодна, але гэта не ў нас. У нас калгасы. Але што будзе з зямлёй, калі ў сённяшніх працаўнікоў не стане сілы? На ўсе трактары давядзецца склікаць гарадскіх людзей. А ці сядуць за руль тыя, хто з пагардай называе вяскоўцаў "колхозники"? Не! Яны лепш красці пойдуць, а працаваць за мізэрны заробак у вёску не паедуць. Ды што там казаць — такое назіраецца ўжо цяпер.

Так што не крыўдзіце вяскоўцаў! Яны гэтага не заслугоўваюць.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*



ЗАЦЕПИЛО

## *Вместо «ГАЗелей» — «Ситроены»*

Недавно услышала информацию, что в Минске реализуется программа по обновлению автопарка Службы скорой медицинской помощи. Для столичной службы "103" закуплены автомобили марки "Ситроен" и "Фольксваген". Что удивило: заместитель председателя Мингорисполкома **Игорь Карпенко** честно признался, что мы отказались от закупок традиционных "ГАЗелей" и впредь будем приобретать импортные машины, потому что они более качественнее и дольше прослужат, чем российские.

Не знаю, может, это связано с чемпионатом мира по хоккею, потому что такая забота властей проявилась только сейчас (в 2012 году для службы "103" закуплено 28 автомобилей, до конца этого года планируют приобрести еще 37). Но в любом случае от этого выиграем мы. И почаще бы бюджетные деньги тратились на такие цели.

**И.СЕМЕНОВА.**

*Минск.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Дзе Таццяна Бандарчук ?*



***Амаль месяц таму прэса паведаміла аб узбуджэнні крымінальнай справы супраць кіраўніка цырка Таццяны Бандарчук. З тых часоў — ніводнага паведамлення. Што зараз адбываецца з артысткай? За кратамі яна ці не?***

**Алена Васільева, Слуцк.**

Сама былы дырэктар цырка пакуль устрымліваецца ад размоў з журналістамі.

Як паведамілі "Народнай Волі" ў прэс-службе Следчага камітэта, расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да **Таццяны Бандарчук** працягваецца.

*"Мера стрымання ў адносінах да падазронай не выбіралася,* — сказалі ў прэс-службе. — *Расследаванне працягваецца, праводзіцца ўвесь неабходны комплекс следчых дзеянняў*".

Нагадаем, што крымінальная справа ў дачыненні да былога дырэктара цырка ўзбуджана за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

МНЕНИЕ

# *АЭС в Беларуси:* вопреки разуму

*"Разве чернобыльская станция была на нашей территории? Нет! Кто пострадал больше всего от этой катастрофы? Мы, белорусы. Где гарантия, что какая-либо станция в России, Украине да и в Европе — самая безопасная? Таких гарантий нет. Мы не гарантируем, что завтра, не дай Бог, не может где-то рвануть, и опять мы пострадаем".*

Все верно, и такое трогательное беспокойство о нашем народе должно бы вызывать умиление. Должно бы! Но почему-то не вызывает. Все дело в том, что приведенный фрагмент выступления известного всем руководящего лица не завершен. Дальше следует: *"Так почему же мы отказываемся от того, чтобы и у нас была своя станция? Что нарушает здесь безопасность наших людей? Ничего".*

Как же понять эти в корне противоречащие друг другу высказывания?

Атомную энергию, словно в шутку, называют "мирной". Это злая шутка. Так шутить могут только те, кому строительство атомной электростанции очень выгодно. Нам же строительство АЭС принесет одни лишь беды. Беды во всем. И эти беды прямо на поверхности, они видны невооруженным глазом — можно ли их не заметить? Те, кто не видит, или слепы, или одурачены жуликоватыми сторонниками АЭС, или очень уж в этом заинтересованы. Строительство атомной станции обходится во много раз дороже строительства новых или тем более модернизации существующих тепловых станций. Разве мы сегодня так богато живем, разве не всё еще выгребли из наших карманов на всякие "ледовые сооружения"?

Сроки строительства атомных станций составляют не менее восьми лет, то есть в четыре раза больше, чем тепловых. И эти огромные средства — никак не меньше 15 миллиардов долларов (хотя официально объявлено о 10 миллиардах) — будут заморожены на столь долгий срок! Разве в нашей стране, испытывающей дефицит буквально во всем, их некуда с пользой потратить? Создание же энергетических мощностей на базе модернизации имеющихся тепловых станций и использования возобновляемых источников при гарантии полной безопасности потребует не более двух миллиардов долларов и окупится не более чем за 4—5 лет.




Что имеет сегодня Беларусь, чтобы строить АЭС?

**Площадка для строительства.** Территорию Беларуси пересекает несколько геологических разломов, строительство исходно опасного объекта на таких территориях категорически (!) **недопустимо**. И уж, по крайней мере, выбор надежной площадки потребует серьезнейших и длительных (многолетних) исследований. Однако полное такое исследование не было проведено.

**Кадры.** Специалисты, имеющие даже минимальный опыт в проектировании столь сложного и опасного объекта или хотя бы в контроле за проектированием, в Беларуси **отсутствуют**. Последствия от проектирования 3—4 блоков Чернобыльской АЭС непрофильными специалистами "Гидропроекта" хорошо известны.

**Строители,** имеющие опыт сооружения столь сложных, ответственных и опасных объектов, **отсутствуют.**

**Профессионалы,** имеющие опыт обслуживания АЭС, **отсутствуют.** Подготовка же таких специалистов требует серьезнейшего обучения и многих лет практической работы. Не следует забывать, что чернобыльская катастрофа — это в первую очередь последствие низкого профессионализма работников ЧАЭС. У нас же даже таких взять негде.

**Хранилища радиоактивных отходов отсутствуют.** Эти объекты не менее опасны, чем сами АЭС, и требуют значительных территорий и затрат, соизмеримых со строительством АЭС.

**Средства для строительства отсутствуют.** Любые кредиты — ярмо на шее страны, избавление от которого будет долгим и сложным. Беларусь уже сегодня влезла в долги, и очень похоже, что не собирается из них вылезать.

**Согласие народа** на строительство АЭС **отсутствует.** Попытка официальной прессы, обслуживающей власть, убедить читателей в массовой поддержке населением строительства АЭС в Беларуси при категорическом отказе от проведения референдума является очередной авантюрой атомного лобби страны.

Что же получается? Ни одного момента "за", одни лишь "против". Какой-то чудовищный перебор! К тому же не следует сбрасывать со счетов и то, что Чернобыль для Беларуси остается злокачественной опухолью на теле страны, продолжающей угнетать все стороны ее жизни. Усиливать же эту опасность строительством АЭС, теперь уже на своей территории, просто кощунственно.

Один момент этой "атомной эпопеи" выдает зачинщиков с головой. Если это затевается для нужд энергетики, то есть в хозяйственных целях, то и решение должно приниматься на основе серьезной экономической и социальной проработки. При этом гласность, вовлечение населения страны в обсуждение и принятие решения должны быть главенствующим фактором. Однако в спешном порядке принимается некое "политическое" решение. И никакого анализа, никаких обсуждений. Выходит, что все делается в политических целях с сугубо политической заинтересованностью со стороны руководства страны? Так чего же стоит демагогия о нужности этого объекта для нашей страны, если заинтересованы в этом только конкретные лица в ее руководстве?

Тогда можно понять и саму технологию пробивания этой идеи. Понятно, что в этом случае ни о какой поддержке со стороны населения страны не может идти речи. А значит, нужно придавить этих распоясавшихся людишек и заставить помалкивать. Любое выступление против атомной энергетики сегодня в Беларуси принято считать чуть ли не антигосударственным преступлением.

Это что же, расправа над людьми? Их было уже так много. Может, хватит?

**Георгий ЛЕПИН, профессор.**

ЗЕМЛЯКІ

## *Школа атрымала імя свайго выпускніка*

*За гады існавання Скрыгалаўская школа Мазырскага раёна дала нямала вядомых людзей. Сярод іх — адзін з военачальнікаў Узброеных сіл СССР, першы намеснік міністра абароны СССР Мікалай Іванавіч Шляга. Нарадзіўся ён у 1935 годзе ў вёсцы Перадрэўка Мазырскага раёна ў сям'і калгаснікаў. Скончыў Скрыгалаўскую школу, затым — Ваенна-аўтамабільнае вучылішча ў Калінінградзе.*



З гэтага часу і пачалася яго служба ва Узброеных сілах. Брэст, Германія, Слонім, Гродна... Вельмі плённай стала для яго служба ў Беларусі. Тут Мікалай Іванавіч пераймаў багаты вопыт камандуючага войскамі БВА генерал-палкоўніка І.Трацяка, Героя Савецкага Саюза генерал-палкоўніка А.Дзебалюка. У будаўніцтве Узброеных сіл Беларусі вялікую падтрымку знаходзіў ён у К.Мазурава, П.Машэрава.

У 1989 годзе М.Шляга быў прызначаны начальнікам Галоўнага палітычнага ўпраўлення Савецкай Арміі і ВМФ. Яму прыйшлося працаваць у розных гарачых кропках, і паўсюль ён з гонарам выконваў свой воінскі доўг.

Гэты славуты і паважаны чалавек узнагароджаны чатырма ордэнамі і 25 медалямі. У 1998 годзе ён быў абраны старшынёй савета Рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Масквы". Памёр у 2004 годзе, пакінуўшы аб сабе добрую памяць.

...На адкрыццё музея М.Шлягі ў Скрыгалаўскую школу прыязджалі дочкі Мікалая Іванавіча Алена і Марына. Рашэннем Мазырскага райвыканкама гэтай школе прысвоена імя М.І.Шлягі.

— Яго асабістыя рэчы, альбомы, узнагароды на сталах і стэндах музея шырока выкарыстоўваюцца настаўнікамі ў ваенна-патрыятычным выхаванні, — расказвае дырэктар школы В.Фалінскі.

Мы ганарымся сваім земляком!

**Сяргей ШАНДРАКОЎ, старшыня ветэранскай арганізацыі Слабадскога сельсавета Мазырскага раёна.**

ДРОБЯЗЬ?

# Смятана ад «Мілкі»

Многія, пэўна, узгадаюць, што Мілка — гэта мянушка не абы-якой, а вядомай ў свой час на ўсю Беларусь каровы. У 1994 годзе на фота разам са сваёй гаспадыняй яна нават упрыгожвала старонкі некаторых газет. На незвычайным падворку ў Шклоўскім раёне даілася і кармілася знакамітасць...

Набыўшы днямі ў Пружанскай краме смятану, прывезеную аж са Шклова, адразу ўспомніў тую Мілку.

Але калі сур'ёзна, падумайце самі: навошта везці смятану са Шклова ў Пружаны? Не ведаю, колькі яна каштуе на сваёй, так бы мовіць, "малой радзіме". Але, прыехаўшы на Брэстчыну з Магілёўшчыны, наўрад ці захавала сваю ранейшую цану: перавоз тавара на адлегласць прыкладна 600 кіламетраў не жартачкі. І якасць, канечне ж, адтаго не лепшая.

Могуць падумаць, што наша Пружаншчына — нейкая нягеглая, што ў нас і карову не могуць даглядзець толкам, і прадукцыю добрую вырабіць. Мо тут — адны лайдакі?

Але ж гэта не так, не так. З даўніх часоў мае землякі — людзі працавітыя, гаспадарлівыя. Малочныя прадукты з тутэйшых мясцін славіліся сваёй якасцю. Мая бабуля не раз распавядала, што ў свой час нават магнаты з Варшавы прысылалі на Пружаншчыну пасланцоў закупляць масла, сыры і тую ж смятану...

Дык куды гэта ўсё падзелася? Чаму нам зараз завозяць малочныя прадукты са Шклова?

Сакрэту, падобна, няма, усё навідавоку. Вядомы Пружанскі малочны камбінат прадалі расійскаму багацею, а яму галава пра пружанцаў не баліць. Збірае сабе добрае малако з раёна, яно тут перапрацоўваецца, а гатовую прадукцыю, зразумела, вывозяць у Расію. Куды ж падзеліся тыя грошы ад продажу сучаснага малочнага камбіната, ніхто не скажа.

Тое, што зараз у нас усё больш гаспадараць "саюзнікі", прыбіраючы да рук беларускую маёмасць, відаць як на далоні. І мы яшчэ цешымся нейкім прывідам сваёй незалежнасці! З кожным днём яна знікае, раставе. Ідзе ціхая, бяскроўная, але згубная для беларускага народа каланізацыя. І "дробязь" са смятанай — маленькая, але пераканаўчая лакмусавая паперка. Толькі дурань няздольны зразумець, што плануемы ўвод расійскіх войск на Беларусь — гэта, у ліку іншага, і забеспячэнне аховы той маёмасці, якую тут ужо набыла Расія...

...Каланіяльная сістэма на абшарах былога СССР распалася яшчэ напрыканцы XX стагоддзя. І толькі адна Беларусь, ужо пры знешняй дзяржаўнай незалежнасці, засталася, па сутнасці, ранейшай калоніяй магутнай усходняй суседкі. У самым цэнтры Еўропы, у XXI стагоддзі, ідзе шпаркі працэс канчатковага паглынання нашай краіны расійскай, называй гэта хоць "саюзнай дзяржавай", хоць Мытным саюзам ці інакш.

Пагроза страты Беларусі беларусамі зусім рэальная. А ці не мы самі вінаватыя ў тым, што згубілі інстынкт самазахавання разам з чалавечай і грамадзянскай годнасцю, што звыклі маўчаць, ператвараючыся з гаспадароў сваёй зямлі ў бясправных і бяздумных істот, пакорліва глядзім, як спаўзаем у прорву небыцця?!

**Мікола КАНАХОВІЧ, афіцэр у адстаўцы.**

ПЫТАННЕ—АДКАЗ

## *Чарніцы на экспарт*

***Чула, што Беларусь прадае за мяжу чарніцы, якія збіраюцца ў нашых лясах. Няўжо гэта так?***

**Ю.КАЛАМІЕЦ, Мінскі раён.**

Не зусім. Днямі начальнік упраўлення нарыхтовак Белкаапсаюза **Таццяна Кірпічэнка** распавяла, што сёлета не атрымаецца сабраць такі ж ураджай чарніц, як летась. *"Прыродныя катаклізмы, позняя вясна адбіліся на якасці і колькасці ягад. Мы адстаем ад мінулага года, калі была закуплена рэкордная колькасць чарніц — 5,5 тысячы тон",* — сказала начальнік упраўлення нарыхтовак. *"Калі будзе тры тысячы тон, мы іх адгрузім на экспарт",* — канстатавала Кірпічэнка. І растлумачыла, што тры прадпрыемствы Белкаапсаюза займаюцца шокавай замарозкай чарніц. *"Так мы атрымліваем дадатковы кошт, і цана адпаведна іншая, і мы плануем адгрузіць на экспарт практычна ўсё, што атрымаем, пакінуўшы крыху для патрэбнасці нашага гандлю і прамысловай перапрацоўкі",* — зазначыла прадстаўнік Белкаапсаюза.

Асноўнымі краінамі экспарту з'яўляюцца Літва, Польшча, Германія.

*"У мінулыя гады мы крыху пастаўлялі ў Кітай, але гэта далёка, і адгрузка ўсё роўна вялася цераз Еўропу",* — паведаміла Кірпічэнка.

Прыём дзікарослых чарніц пачаўся 24 чэрвеня.



СПАДЧЫНА

# «Пакуль будую — жыву...»

***Напэўна, большасць жыхароў Беларусі ведае турыстычны аб'ект "МІРСКІ ЗАМАК", ён цяпер з'яўляецца візітоўкай Беларусі. Пасля адбудовы і рэстаўрацыі ў 1991—2010 гг. замак стаў найкаштоўнейшым гатычна-рэнесансным помнікам архітэктуры ў краіне, у 2000 г. быў унесены ў Спіс сусветнай спадчыны культуры ЮНЕСКА.***

Вядома, што тэрыторыя сучаснага Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці, дзе размясціўся г.п. Мір, у 1486 г. стала ўласнасцю брэсцкага і ковенскага старасты Юрыя Іллініча. Праўдападобна, распачаў ён будаўніцтва замка ў 1506 годзе. На пачатку XVI ст. былі толькі акружныя муры, вежы і неіснуючы сёння аднапавярховы будынак у паўднёва-заходнім куце двара. Сцены мелі ў аснове тры метры ў таўшчыню і да 13 метраў у вышыню.

З цягам часу змяняліся ўласнікі замка, і ўнук князя Іллініча перадаў яго па завяшчанні ад 1569 г. Мікалаю Крыштафу Радзівілу ("Сіротку"). Радзівілы перабудавалі яго ў стылі рэнесанс. У першай палове XVIII ст. замак атачылі зямлянымі бастыённымі фартыфікацыямі. Абшары ў 25 гектараў былі прызначаны на парк.



Мірскі замак цяпер.

Разбураны шведамі ў 1655 і 1706 гг. замак зноў адбудавалі, і стаў ён рэзідэнцыяй віленскага ваяводы Караля Станіслава Радзівіла ("Пане Каханку"), які быў вядомы па раскошных балях і ўсялякіх прыдумках-забавах. У верасні 1784 г. ён прымаў тут знакамітага госця — апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага...

Жаўнеры царыцы Кацярыны ў 1792 г. ля муроў Мірскага замка сутыкнуліся ў крывавай бітве з войскам Рэчы Паспалітай, каб зваліць яе маладую Канстытуцыю ад 3 мая, завяршыць падзел Польшчы. Падчас паўстання Т.Касцюшкі ў 1794 г. замак узялі расійскія войскі Суворава. А больш за 200 гадоў таму тут адбылася вялікая бітва паміж расійскім казацкім корпусам атамана Платава і дывізіяй польскіх уланаў пад камандаваннем генерала Ражнецкага са складу войск Напалеона.



Іяланта Вілконьская з партрэтам сваёй мамы — Кіры Святаполк-Мірскай.

Пасля смерці Дамініка Радзівіла ў 1813 г. замак быў аддзелены ад Нясвіжскай ардынацыі і перададзены ў якасці пасагу яго дачцэ Стэфаніі, якая выйшла замуж за Вітгенштэйна-Берлебурга. Ад іх унука Маўрыцыя замак купіў у 1895 г. Мікалай Святаполк-Мірскі, сын якога Міхал пачаў тут рамонт. Потым мястэчка Мір і сам замак некалькі разоў змянялі ўладальнікаў, але род Святаполк-Мірскіх быў апошнім — аж да 1939 года.

А цяпер размова з асобай, якая паходзіць з роду нашчадкаў апошніх уладальнікаў Мірскага замка, — **Іялантай Каралінай Вілконьскай.** Яна дачка княгіні Кіры Святаполк-Мірскай.

**— Шаноўная спадарыня Іяланта! Перш за ўсё віншую з тым, што вашы выдатныя продкі пакінулі такі адметны знак на беларускай зямлі. Меў радасць пазнаёміцца дзякуючы вам з цікавай інфармацыяй. Шкада, што ў Беларусі замак у Нясвіжы называюць "Замак Радзівілаў", а гэты — проста "Мірскі замак"...**

*— Як напачатку, так і ў канцы не Радзівілы былі ўладальнікамі замка. Ад 1895 г. імі сталі князі Святаполк-Мірскія: замак з усёй нерухомасцю і тэрыторыя мястэчка належала ім. Іх парэшткі пахаваны ў родавай капліцы непадалёк замка. Гэта ўсе мае продкі! Прадзеды, дзяды, бабуля Барбара, Міхал, князь Святаполк-Мірскі, — дзядзя маёй мамы Кіры. Святаполк-Мірскія — апошнія ўладальнікі замка амаль да 1939 года. Перадапошнім быў Міхал, сын Мікалая і Клеапатры...*

**— Вы расказвалі аб сваіх продках, а хто быў ваш бацька?**

*— Гісторыя маіх бацькоў знаходзіцца ў маіх тэматычных альбомах. Бацька, Томаш Вілконьскі, быў забіты ў нямецкай рэпрэсіўнай акцыі супраць польскай інтэлігенцыі ў лістападзе 1939 г., на палігоне "Брус" у Лодзі. Забілі бацьку таму, што ён быў польскім патрыётам, дэвіз якога "Бог — Гонар — Айчына". У 2008 г. была праведзена ідэнтыфікацыя, і дзякуючы пярсцёнку, што знаходзіўся сярод парэшткаў забітых, было ўстаноўлена, што там пахаваны мой бацька. На пярсцёнку быў надпіс — імя жонкі Кіры, княгіні Святаполк-Мірскай. Памятная дошка, прысвечаная бацьку, знаходзіцца ў Музеі незалежных традыцый у Лодзі.*

**— Напэўна, вы ўжо наведвалі Мірскі замак?**

*— Так, была. Мама бывала тут у 1920-х гадах, у дзядзькі Міхала. А таксама там быў мамін бацька — Ян.*

**— Можна даведацца, якой веры трымаўся ваш род?**

*— Ведаю, што Міхал Святаполк-Мірскі перайшоў з праваслаўя на каталіцызм, але мама і яе бацька былі праваслаўнымі. Пачатак гэтага роду ідзе ад царскіх Рурыкавічаў. Узяўшы пад увагу, што іх уласнасць — Мір — была тэрыторыяй тагачаснай Польшчы, то, магчыма, уплыў атачэння па-дзейнічаў на рашэнне Міхала.*

**— Цяпер Мірскі замак — цудоўны турыстычны аб'ект, але шматлікіх турыстаў бянтэжыць убогасць і занядбанасць старажытнага касцёла Св. Мікалая Цудатворцы ў цэнтры мястэчка. Касцёл збудаваны на ахвяраванні Радзівіла-"Сіроткі" і, на шчасце, аднаўляецца. Але, каб вярнуць яму першасны бляск, патрэбна добрая воля ўлад у Мінску. Цяпер у Міры палякаў няшмат, але каталіцкая парафія мае 425 гадоў сваёй гісторыі. На мой погляд, без аднаўлення касцёла ўся велічэзная праца па рэстаўрацыі Мірскага замка будзе выглядаць незавершанай.**

*— Вядома, замак адрэстаўраваны пры значнай дапамозе ЮНЕСКА і прызнаны як спадчына сусветнай культуры. Тут ёсць залы, прысвечаныя даўнейшым уладальнікам, у тым ліку і маім продкам — князям Святаполк-Мірскім. Што да каталіцкага касцёла, то лічу: яго трэба аднаўляць з большай падтрымкай улад, саміх парафіян. Даведалася, што адна мая знаёмая (яна родам з Міра, а жыве ў Варшаве) зрабіла ахвяраванне на лавы для гэтага касцёла.*

**— Праглядаў Кнігу наведванняў у музеі замка і заўважыў там сярод ганаровых гасцей цудоўны запіс Марыі Святаполк-Мірскай ад 30 жніўня 2011 года. Хто гэтая асоба?**

*— Падчас свайго візіту ў Мір на ўрачыстасцях Дня беларускага друку я пазнаёмілася са сваёй траюраднай сястрой з Лондана — княжзёўнай Марыяй Святаполк-Мірскай, з якой асабіста раней не была знаёмая. Аказваецца, мы маем супольнага дзеда — Яна Святаполк-Мірскага, які перад Другой сусветнай вайной жыў разам з братам Міхалам у замку. Пасля смерці бабулі Барбары (на той час мама мела толькі чатыры гады) дзед другі раз ажаніўся, вось адкуль гэтая роднасць з Марыяй.*

**— Дзякую за размову, шаноўная спадарыня! На развітанне жадаю Вам моцнага здароўя і хачу паведаміць, што цяпер замак стаў самастойнай адзінкай і называецца "Замкавы комплекс "Мір".**

*— Даведалася пра гэта нядаўна. Цікава, дзе цяпер партрэт маёй мамы, які я падарыла замку падчас яго наведвання ў 2005 годзе? Партрэт быў прызначаны для залы князёў Святаполк-Мірскіх...*



Родавая капліца Святаполк-Мірскіх у Міры.

Пасля размовы з прадстаўніцай старажытнага роду застаецца засяродзіць увагу на лёсе апошніх уладальнікаў замка ў Міры. Як вядома, Святаполк-Мірскія, маючы 14 фальваркаў і 15 засценкаў, тут гаспадарылі з 1895 года. Замак часткова быў у руінах пасля вядомых гістарычных падзей. Міхал Святаполк-Мірскі ўзяў сабе жыццёвы дэвіз: *"Будую, пакуль жыву, пакуль будую — жыву"*. Знішчэнні, нанесеныя Першай сусветнай вайной, былі такія вялікія, што апошні спадчыннік Міра быў здольны аднавіць і рэстаўраваць толькі адзін пакой або залу ў год... Да сваёй смерці ў 1938 г. князю ўдалося давесці да прымальнага стану толькі частку ўсходняга крыла замка. Ён меў сваіх дзяцей і ўсынавіў сына трэцяга брата, Аляксандра, які жыў у Расіі. Пасля смерці Міхала Мір перайшоў у спадчыну Аляксандру і Васілю, сынам брата. Гэта былі каларытныя і арыгінальныя постаці, як і сам князь.

Калі ў верасні 1939 г. Чырвоная Армія ўвайшла ў Мір, тады ж адразу арыштавалі спадчыннікаў. Вялікі натоўп рушыў за арыштаванымі аж да Баранавічаў, што на адлегласці 45 кіламетраў. Людзі прасілі савецкія ўлады аб вызваленні рупных памешчыкаў, якія добра ставіліся да мясцовых людзей. Але дарэмна. Тым, хто заступіўся "за буржуяў", моцна дасталося за такую смеласць.

Вядома, што Мірскіх адправілі ў кірунку Сібіры. Бясцэнная для славянскай культуры маёмасць прапала. Была знішчана багатая бібліятэка. Як успаміналі жывыя сведкі, на зямлі вакол замка валяліся раскіданыя інкунабулы, псалтыры ў вокладках са слановай косці, энцыклапедыі, замежная літаратура. Спустошаныя памяшканні былі ператвораны ў грамадскія майстэрні...

Падчас Другой сусветнай вайны немцы зрабілі ў замку гета для навакольных яўрэяў, некалькі тысяч іх было забіта ў бліжэйшых ваколіцах.

Пасля вайны гэтыя землі ўвайшлі ў склад Беларускай ССР. Да пачатку 1960-х гадоў у замкавых будынках месціліся бежанцы, у якіх вайна знішчыла дамы і ўсю маёмасць. Разбурэнне паглыблялася. Жыльцы выкарыстоўвалі для ацяплення памяшканняў рэшткі мэблі, паркета і панэляў. Потым тут размясціўся вайсковы гарнізон. Над змрочнымі вышчарбленымі мурамі са злавесным крыкам ляталі зграі крумкачоў і варон. Цёмныя і маўклівыя муры ўзбуджалі страх...

Аб неабходнасці адбудовы гэтай архітэктурнай і культурнай каштоўнасці пачалі гаварыць у 70-х гадах мінулага веку. Пасля яе завяршэння замак стаў адным з найбольш цікавых і папулярных турыстычных аб'ектаў у Беларусі. Рыцарскія фестывалі, канцэрты, выставы, тэатральныя спектаклі, навуковыя канферэнцыі цяпер складнік жыцця музея ў сценах сярэднявечных муроў. Тут і залы для канферэнцый, і рэстаран, і гасцініца, ладзяцца непаўторныя вясельныя цырымоніі. Але неяк дзіўна гучыць тут інфармацыя толькі на трох мовах: рускай, англійскай і беларускай. А дзе ж польская, чаму не чуваць? Вельмі невыразна праглядаецца і беларускі след у гісторыі Міра і замка.

Вядома, што ў мястэчку і ваколіцах пражывалі акрамя беларусаў і палякі, яўрэі, цыганы, татары, рускія, прадстаўнікі іншых народаў. На абшарах былога Навагрудскага ваяводства Рэчы Паспалітай захавалася шмат помнікаў архітэктуры, сакральных і гаспадарчых будынкаў, могільнікаў, якія сведчаць аб польскай прысутнасці на гэтай тэрыторыі. Навошта ж перапісваць гісторыю, рабіць з яе часткі затопленую Атлантыду, да якой ужо лепш не вяртацца? Каму патрэбна вырыванне больш як 300 гадоў са старонак гісторыі? Можна толькі паўтарыць вядомыя словы: "*Супольная гісторыя павінна аб'ядноўваць, а не дзяліць суседскія народы*".

У 2012 г. замкавы комплекс "Мір" наведала звыш 200 тысяч турыстаў. Сапраўды, варта наведаць гэтую адметную мясціну, паглядзець старажытныя помнікі з выразнымі слядамі многіх народаў, цесна звязаных з іх культурай і гісторыяй — гісторыяй гасцінных і добразычлівых жыхароў гэтай зямлі.

**З павагай —**

**Бярнард ПАКУЛЬНІЦКІ, жыхар г.п.Гарадзея Нясвіжскага раёна.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ

*На пытанні чытачоў "Народнай Волі" адказвае намеснік старшыні грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства абароны спажыўцоў" **Васіль ВАЛАСЮК**.*

## Праз два месяцы зламаўся тэлевізар...

*Купіў тэлівізар, ён зламаўся праз два месяцы. Што мне зараз рабіць?*

**Пётр КІСЕЛЬ, Ваўкавыск.**

— Звярніцеся ў майстэрню па рамонце. Такі тавар можна абмяняць, калі ёсць істотны недахоп, які пацверджаны майстэрняй.

## На тэлефоне «паляцеў» сэнсар

*Скажыце, калі ласка, ці можна памяняць тэлефон альбо вярнуць за яго грошы, калі прайшло 10 месяцаў з дня набыцця тавару (ён яшчэ на гарантыі)? На тэлефоне "паляцеў" сэнсар.*

**Аляксей ГРАМОВІЧ, г.Светлагорск.**

— Замяніце бясплатна сэнсар у майстэрні. Калі праявіцца плаваючы паўторны дэфект, мяняйце тэлефон.

## Аўтанавігатар не ловіць сігнал спадарожнікаў

*У магазіне набыў аўтанавігатар. Ужо праз дзень стала вядома, што ён не ловіць сігнал спадарожнікаў. Адным словам, не працуе. Вярнуўся ў магазін, адтуль мяне накіравалі ў сэрвісны цэнтр. Сказалі, што навігатар неабходна праверыць на прадмет працаздольнасці. У сэрвісным цэнтры тавар пакінулі на некалькі дзён, у квітанцыі напісана, што тавар ужо быў ва ўжыванні. І гэта за дзень, што прайшоў з моманту пакупкі! Падкажыце, што рабіць?*

**Віктар ПІНЧУК, Мінск.**

— На працягу 14 дзён вам павінны на рукі выдаць акт тэхнічнага агляду на права замены тавару альбо адрамантаваць яго.

## Ці павінны вяртаць грошы на банкаўскую картку?

*Набыла туфлі па банкаўскай картцы. На працягу месяца знайшла дэфект. Туфлі не насіла ўвесь гэты час. Магазін даў згоду вярнуць грошы, але чамусьці менавіта на гэтую ж картку. Ці мае ён такое права?*

**Алена ВІННІКАВА, Брэст.**

— Не мае. За тыя ж туфлі з дэфектам грошы вяртаюцца спажыўцу ў момант іх здачы.

## Урач паставіў няправільны дыягназ

*Скажыце, ці можна засудзіць урача за тое, што ён паставіў няправільны дыягназ, пасля чаго спатрэбіліся вялікія грошы на дарагое лячэнне? Ці могуць мне кампенсаваць маральны і матэрыяльны ўрон? Куды звяртацца, што трэба рабіць?*

***Марыя, Слонім.***

— Вы маеце поўнае права абараніць свае правы. Звяртайцеся да адвакатаў.

## Ці можна вярнуць у магазін канверт для нованароджаных?

*Ці можна канверты для нованароджаных вярнуць ці абмяняць у магазіне?*

**Валянціна ПЕТРЫК, г.Магілёў.**

— Не, такі тавар нельга ні вярнуць, ні абмяняць.

## Ці можа быць люстра складанатэхнічным таварам?

*Калі люстра прадавалася ў камплекце з пультам дыстанцыйнага кіравання, мае розныя рэжымы ўключэння і гарантыю, ці можна яе лічыць складанатэхнічным таварам?*

**Яўген ПІЛІПЕНКА, Маладзечна.**

— Так, гэта складанатэхнічны тавар.

## Паклаў грошы не на той рахунак

*Паклаў грошы на тэлефон не на той рахунак, а квітанцыю выкінуў. Ці можна нешта зрабіць у гэтай сітуацыі?*

**Антон ВАРАЎКА, Віцебск.**

— Звярніцеся туды, дзе вы клалі грошы. Магчыма, вам змогуць дапамагчы. Але на будучыню — будзьце больш уважлівым і ніколі не выкідвайце квітанцыю, пакуль не паступілі на рахунак грошы.

## Зламаўся новы спінінг

*У магазіне набыў спінінг. Вечарам паехаў яго праверыць, ён зламаўся. Што рабіць? Натуральна, хацелася б вярнуць грошы, бо такі спінінг мне больш не патрэбны...*

**Уладзімір КАРПОВІЧ, Мінск.**

— Калі захаваўся чэк, вы можаце вярнуць грошы. Калі вам адмовяць, зрабіце запіс у Кнізе скаргаў і прапаноў. І чакайце адказу 15 дзён.

## Акуляры можна вярнуць у магазін

*Купіла акуляры Polaroid, праз нейкі час пайшло расслаенне шкла. Ці магу я вярнуць тавар неналежнай якасці ці абмяняць яго?*

**Паліна ЛІСОВІЧ, Полацк.**

— Так. Вярніце акуляры ў магазін. Гэта вытворчы брак.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СРАВНИМ!

# В каком возрасте уходят на пенсию в разных странах

*Белорусские власти не один раз заявляли: в ближайшее время вопрос повышения пенсионного возраста подниматься не будет. Хотя эксперты, в том числе и представители Министерства труда и соцзащиты, высказывали мнение, что экономическая и демографическая ситуация подталкивает Беларусь к увеличению пенсионного возраста. Только реализовывать эту непопулярную меру надо осторожно, используя не только человеческий ресурс, но и инновационные технологии.*

Сегодня только в Беларуси, России и Узбекистане женщины выходят на пенсию в 55 лет, мужчины — в 60. Еще недавно в списке этих стран была Украина. Но в этой стране начата пенсионная реформа, принято решение поэтапно до 2021 года увеличивать пенсионный возраст для женщин до 60 лет, сделав его таким же, как и для мужчин.

А в каком возрасте уходят на пенсию жители других стран?

| Страна | Пенсионный возраст | |
|---|---|---|
| | Мужчины | Женщины |
| Австрия | 65 | 60 |
| Азербайджан | 62,5 | 57,5 |
| Албания | 64,5 | 59,5 |
| Армения | 63 | 63 |
| **Беларусь** | **60** | **55** |
| *Не планируется повышать пенсионный возраст, однако стимулируется более поздний выход на пенсию* | | |
| Бельгия | 65 | 65 |
| Болгария | 63 | 60 |
| Босния и Герцеговина | 65 | 65 |
| Великобритания | 65 | 60 |
| *Существуют планы повышения пенсионного возраста для мужчин до 66 лет с 2016 года* | | |
| Венгрия | 62 | 62 |
| Германия | 65—67 | 65—67 |
| Греция | 58—65 | 58—65 |
| Грузия | 65 | 60 |
| Дания | 65—67 | 65—67 |
| Израиль | 67 | 62 |
| *По данным news.ru.il, Минфин предлагает к 2020 году увеличить возраст выхода на пенсию для мужчин до 70 лет, для женщин — до 65 лет. На первом этапе пенсионный возраст для мужчин будет повышен с 67 лет до 68, а для женщин — с 62 до 64.* | | |
| Ирландия | 65—66 | 65—66 |
| Исландия | 67 | 67 |
| Испания | 65 | 65 |
| Италия | 57—65 | 57—65 |
| Казахстан | 63 | 58 |
| *С 1 января 2014 года поэтапно, в течение 10 лет, планируется ежегодно увеличивать на полгода пенсионный возраст для женщин, с последующим доведением его до 63 лет.* | | |
| Канада | 65 | 65 |
| Кипр | 65 | 65 |
| Китай | 60 | 50—55 |
| *Всеобщая пенсионная система в Китае отсутствует, пенсия выплачивается отдельным категориям населения* | | |
| Косово | 65 | 65 |
| Кыргызстан | 63 | 58 |
| Латвия | 62 | 62 |
| *Предполагается повышение пенсионного возраста до 65 лет для обоих полов за 2014—2020 годы* | | |
| Литва | 62,5 | 60 |
| Лихтенштейн | 64 | 64 |
| Люксембург | 65 | 65 |
| Македония | 64 | 62 |
| Мальта | 61 | 60 |
| Молдова | 65 | 60 |
| Нидерланды | 65 | 65 |
| Норвегия | 67 | 67 |
| Польша | 65 | 60 |
| *Предполагается повышение до 67 лет для обоих полов* | | |
| Португалия | 65 | 65 |
| Россия | 60 | 55 |
| Румыния | 63 | 58 |
| Сербия | 63 | 58 |
| Словакия | 62 | 55—59 |
| Словения | 63 | 61 |
| США | 65 | 65 |
| *Существуют планы по увеличению до 69 лет к 2015 году* | | |
| Таджикистан | 63 | 58 |
| Туркменистан | 62 | 57 |
| Узбекистан | 60 | 55 |
| Украина | 60 | 55 |
| *До 2021 года пенсионный возраст для женщин будет постепенно повышаться до 60 лет* | | |
| Финляндия | 62—68 | 62—68 |
| Франция | 60 | 60 |
| С 2016 года возможно повышение до 62 лет | | |
| Хорватия | 65 | 60 |
| Черногория | 64 | 59 |
| Чехия | 61 г. 10 м | 56—60 |
| Швейцария | 65 | 64 |
| Швеция | 61—67 | 61—67 |
| *Премьер-министр Швеции выступает за повышение пенсионного возраста до 75 лет* | | |
| Эстония | 63 | 60,5 |
| Япония | 70 | 70 |

СЛЫШАЛИ?

## *Вместо «Горизонта» бизнес-центр*

Около шести лет назад завод "Горизонт" перенес свои складские и производственные помещения из центра города на площадку в переулке Софьи Ковалевской. Минчане сразу же задались вопросом: что будет на месте старых зданий?

Как выяснилось, многофункциональный центр, где разместятся главные офисы и представительства крупнейших белорусских и зарубежных компаний, банков, а также государственные учреждения.

Реализация инвестиционного проекта согласована с главой государства и предполагает снос существующей производственной застройки и строительство новых объектов недвижимости. Однако воплотить его в жизнь планируется в течение 7—10 лет.

— Дело в том, что общая площадь застройки квартала будет увеличена почти в два раза, — объяснил ситуацию изданию "Минский курьер" заместитель директора по развитию инвестиционных проектов и маркетингу ЗАО "Горизонт-Белинвест-Девелопер" **Андрей Абрамюк**. — С нынешних 85 тысяч квадратных метров до 160 тысяч.

Сейчас ведутся переговоры с потенциальными инвесторами.

Ориентировочная стоимость многофункционального комплекса — около 322 миллионов евро.

КРОПКІ НАД «І»

## *Заблыталіся...*

Карэспандэнцыя "Адпускныя на "Камінтэрне" будуць", была надрукавана ў мінулым нумары "Народнай Волі". Яна выклікала пэўны рэзананс чытачоў. У рэдакцыю патэлефанаваў і герой публікацыі, кіраўнік прадпрыемства **Пётр Афончанка** *(на фота)***.** Ён адзначыў, што кожнае яго слова пададзена ў газеце без змен і варыяцый. Між тым Пётр Іванавіч звярнуў нашу ўвагу на недарэчнасць, звязаную з фота. На здымку, змешчаным у тэксце без подпісу, — не ён...

Як высветлілася, мы памылкова змясцілі ў газеце здымак іншага прадстаўніка беларускай эканомікі — былога першага намесніка старшыні канцэрна "Беллегпрам" **Уладзіміра Іванавіча Астроўскага**... Неяк Афончанка з Астроўскім разам давалі прэс-канферэнцыю, іх здымкі былі размешчаны побач, вось мы і заблыталіся, хто дзе...

У тэлефоннай размове з Уладзімірам Астроўскім "Народная Воля" ўжо прынесла яму прабачэнне. Цяпер Уладзімір Іванавіч адышоў ад спраў і знаходзіцца на пенсіі. Карыстаючыся выпадкам, хочам сказаць: "Добрага адпачынку! Моцнага здароўя!"

З-ЗА КРАТАЎ

## *Спатканне з жонкай*

За ўвесь час зняволення экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч толькі другі раз змог убачыць сваю жонку Марыну Адамовіч. Іх спатканне адбылося днямі ў магілёўскай турме №4. Паводле слоў Адамовіч, гэта была дзвюхгадзінная сустрэча праз шкло, з мужам яны размаўлялі па тэлефоне.

